**Увага! Самы позні тэрмін здачы рэкламнай аб'явы ў чарговы нумар — аўторак да 15 гадзін штотыднёва**



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 30 (59). Слонім. 23 — 29 ліпеня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

**НАВІНЫ**

## Паланез вяртаецца

**25 ліпеня ў 6.30 раніцы на вежы будынка пажарнай службы, што на вуліцы Хлюпіна, загучыць паланез Міхала Агінскага.**

Гэта мелодыя пасля доўгага перапынку загучыць менавіта ў дзень прафесійнага свята пажарных.

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" начальнік ваенізіраванай пажарнай службы Васіль Рубец, пасля таго, як пра даўнюю традыцыю расказала "Газета Слонімская", ён звярнуўся ў гарвыканкам, які даў згоду і дапамог набыць магнітафон і гукаўзмацняльную апаратуру, якую ўстанавілі на вежы пажарнай часці.

– Пакуль паланез будзе гучаць адзін раз на дзень, але з цягам часу, як і шмат гадоў назад, слонімцы змогуць яго чуць два разы на дзень, – заявіў падпалкоўнік Рубец.

## Быў бы толькі хлеб...

**У хуткім часе гаспадаркі раёна распачнуць жніво і першыя тоны збожжа паступяць на хлебапрыёмны пункт камбікормавага завода.**

Як паведаміў дырэктар завода Якаў Трухан, складскія памяшканні, разлічаныя на захаванне 30 тысяч тон зерня, цалкам падрыхтаваны да прыёму новага ўраджаю.

Належным чынам падрыхтавана і тэхніка для перапрацоўкі зерня.

## Вынікі абнадзейваюць

**Слонімскі ГРАУС заняў другое месца па выніках службовай дзейнасці за першае паўгоддзе 1998 года сярод аддзелаў міліцыі вобласці.**

Рашаючымі аргументамі для камісіі абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў сталі паказчыкі работы службаў слонімскай крымінальнай міліцыі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЗДАРЭННІ**

## У Слоніме ўжо страляюць

**20 ліпеня ў 1 гадзіну ночы ля бара "Аазіс" выстралам у жывот быў паранены слонімец Сяргей Б.**

Цяпер ён знаходзіцца ў райбальніцы пад аховай міліцыянера. Цікава тое, што стралялі ў чалавека літаральна ў дваццаці метрах ад аддзела міліцыі. Па факту здарэння ідзе следства.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## За каханне пасадзілі за краты

**32-гадовая жыхарка Слоніма М. засуджана да 5 гадоў зняволення за ўхіленне ад лячэння венерычнай хваробы і заражэнне ёю іншых асобаў.**

Знаходзячыся на ўліку ў скурвендыспансеры, яна па сваёй волі пакінула медыцынскую ўстанову і вяла разгульны лад жыцця. Падчас следства высветлілася, што жанчына неадназова ўступала ў палавую сувязь, тым самым заразіла венерычнай хваробай некалькі чалавек.

**Алена СІНЯК**

# ПЕРВАЯ ПРЕСС-КОНФЕРЕНЦИЯ ОЛЕГА ЛАКТЮШИНА В МИНСКЕ

В последние дни республиканские СМИ уделили большое внимание слонимскому "Коммунальнику" и мэру города Олегу Лактюшину. Причиной этому – пресс-конференция, которую провело руководство нашей команды 17 июля в Минске, в помещении Белорусского общества дружбы и культурных связей с зарубежными странами. Олег Лактюшин там присутствовал не только как председатель горисполкома, но и как президент футбольного клуба "Коммунальник".



*На пресс-конференции «Коммунальника»*

Минские журналисты отметили беспрецедентный факт – аутсайдер проводит пресс-конференцию да еще в столице. Поэтому они "засыпали" острыми вопросами главного тренера "Коммунальника" Якова Шапиро, игроков команды, досталось и мэру.

Яков Шапиро рассказал о ситуации в команде. В частности, он отметил, что сейчас основные усилия направлены "на постановку игры и создание в коллективе теплой "семейной" обстановки". Журналистам были представлены новички и "ветераны" "Коммунальника". Только из борисовского БАТЭ в слонимскую команду перешло 9 игроков.

Олег Лактюшин же публично пообещал, что "город, со своей стороны, не останется глух к просьбам и пожеланиям "Коммунальника" и будет способствовать удачному выступлению клуба".

На пресс-конференции также было заявлено, что главной целью слонимского клуба "является создание интересного игрового ансамбля, такой команды, которая бы радовала 54-тысячный Слоним, а также болельщиков из близлежащих Дятлово, Волковыска, Зельвы"... Правда, не было пояснено, как Слоним будет реализовывать свои "империалистические" планы в отношении соседних районов...

**Сергей ЁРШ**

# С ПЕРЕМЕННЫМ УСПЕХОМ

**Слонимский "Коммунальник", который сейчас находится на сборах в Стайках под Минском, провел два матча. Если в первом, товарищеском, наши футболисты обыграли минское "Торпедо" 2:1 (голы забили А.Баль и А.Дегиль), то во втором, кубковом (1/16 финала), уступили по пенальти 3:4 светлогорскому "Коммунальнику".**

По словам главного тренера "Коммунальника" Якова Шапиро, с которым корреспонденту "ГС" удалось связаться по телефону, игра в Светлогорске 18 июля проходила под проливным дождем. Газон превратился в болото, в котором "буксовал" мяч. В результате, слонимчане, имея преимущество и голевые моменты, так и не смогли "распечатать" ворота хозяев. И в основное, и в дополнительное время была зафиксирована нулевая ничья, пришлось пробивать пенальти. В "футбольной лотерее" повезло светлогорцам. У наших точно пробили пенальти Козловский, Баль и Киреня, а промахнулись Дым и Татарашвили (именно они не забили пенальти и в матчах чемпионата Беларуси)...

21 июня "Коммунальник" проводил в Стайках товарищеский матч с "Гомелем". В Слоним наши футболисты вернутся утром в пятницу, накануне старта во втором круге. 25 июля "Коммунальник" будет принимать могилевский "Торпедо-Кадино". Начало игры в 18.00.

**Сергей ЁРШ**

## Бронза едет в Слоним из Москвы

**Новобранец "Коммунальника" Алексей Панковец (ранее играл в борисовском БАТЭ) в составе сборной Беларуси стал обладателем бронзовой медали на завершившихся в Москве I Всемирных юношеских играх.**

Эти награды белорусские футболисты получили, несмотря на поражение 0:2 в матче за третье место со сборной Катара (государство в Персидском заливе). Кроме того, Панковцу присвоено звание "мастер спорта".

**С.Ё.**

**ФК "Коммунальник" (Слоним) 24.07.98 в 18.00 в малом зале ДК проводит встречу с болельщиками. Приглашаем всех любителей футбола.**



**ТРЫБУНА**

# БЕЛАРУСЬ У ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ?

Вядома, што геаграфічна наша рэспубліка знаходзіцца ў цэнтры Еўропы. А ці адчуваюць гэта жыхары Слоніма на сабе? З гэтым пытаннем карэспандэнт "ГС" звярнулася да гараджан.

**Яўген Іванавіч, аўтаэлектрык:**



– Чаму б і не. Праз тэрыторыю Беларусі вядуць дарогі ў Расію, на Украіну, Прыбалтыку, Заходнюю Еўропу.

**Алена і Галіна, студэнткі:**



– Ведаеце, пакуль што не вельмі мы адчуваем сябе ў цэнтры цывілізацыі, бо яна ў нас адсутнічае. Нейкія зрухі ёсць, але яны вельмі нязначныя.

**Святлана, прадпрымальніца:**



- Асабіста я не адчуваю сябе ў цэнтры Еўропы. Па-першае, жыву ў Беларусі нядоўга. Прыехала сюды з вялікага горада ў Казахстане, таму Слонім для мяне – вялікая вёска.

**Аляксандр Аніська, работнік цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці:**



– Не адчуваю, таму што ў краіне, на жаль, робіцца не так, як павінна быць у еўрапейскай краіне. Палітычна і эканамічна мы яшчэ далёкія ад цэнтра.

**Уладзімір (фатаграфавацца адмовіўся):**

– У цэнтры цывілізацыі я сябе не адчуваю. Пакажыце старым людзям дынаміку роста пенсіі і дынаміку роста даляра. Пакажыце колькі яны зарабляюць. Хай палічаць гэтыя грошы. Тым часам цэны падымаюцца значна хутчэй, чым даходы. Памножце іх на курс рубля і атрымаецца, што мы атрымліваем у два-тры разы менш, чым у 1994 годзе.

**Каско Фёдар Васільевіч, працуе на заводзе ЖБК:**



– У цэнтры абяздоленых і бедных я сябе адчуваю, хоць нібы і мільянер.

**Лакуця Леанід Ульянавіч, пенсіянер:**



– Не адчуваю, бо атрымліваю пенсію, якой хапае толькі на хлеб і ваду, а на адзенне і на абутак не.

**Ірына, студэнтка:**



– Тэрытарыяльна становішча ў нас спрыяльнае. Беларусь – цудоўная краіна. А наш Слонім хваляць нават іншаземцы. Але разам з тым да еўрапейскага ўзроўню нам яшчэ вельмі далёка.

**Юрый Генадзьевіч, міліцыянер (фатаграфавацца адмовіўся):**

– Канешне адчуваю. Я лічу, што мы знаходзімся ў цэнтры Еўропы, як у палітычным, так і ў эканамічным плане.

**Віталь Іванавіч (фатаграфавацца адмовіўся):**

– Я лічу, што Беларусь – гэта нейкі калгас, дзе жывуць адныя калгаснікі. Ад такога жыцця вельмі дрэнна сябе адчуваеш. Мне тут усё не падабаецца: зарплата, прадпрыемствы, цэны. Толькі палітычная сітуацыя мяне задавальняе.

**Апытала Алена СІНЯК**
**Сфатаграфаваў Мікалай СУПРУН**

ВЁСКА

*нашы таленты*

# МАЙСТАР З ЖЫРОВІЧ

Фігуркі коней, аленяў, птушак майстра разьбы па дрэву Леаніда Ліхача з Жыровіч выглядаюць нібы жывыя. Высока ацаніў творы Леаніда Аркадзьевіча вядучы спецыяліст па народнай творчасці абласнога ўпраўлення культуры Алесь Аўчыннікаў, які нядаўна адзначыў, што ўсе яго работы маглі б заняць дастойнае месца на любой міжнароднай выставе. Таму с фотакарэспандэнтам Мікалаем Супруном мы вырашылі з гэтым чалавекам пазнаёміцца бліжэй. І вось мы ў Жыровічах, на падворку Леаніда Ліхача. Майстра мы засталі ў невялічкай майстэрні, дзе паўсюль ляжалі ліпавыя нарыхтоўкі, шматлікі мудрагелісты інструмент знаходзіўся ў Леаніда пад рукой.



— Без сапраўднага інструмента і майстар — не майстар. Складана стварыць што-небудзь прыгожае без добрага набору разцоў, — патлумачыў Леанід. — Толькі пасля таго, як набыў іх, пачаў рабіць больш складаныя рэчы.

А здольнасці тварыць у Леаніда Ліхача праявіліся яшчэ ў дзяцінстве, калі ён пры дапамозе звычайнага цвіка вырабіў з цэглы бюст Леніна. Настаўніца па выяўленчаму мастацтву заўважыла, што ў хлопчыка атрымліваюцца прыгожыя фігуркі звяроў і птушак з гліны.

Падчас размовы высветлілася, што ў Леаніда Аркадзьевіча складаны жыццёвы лёс. Яго родныя бацькі загінулі ў 1941 годзе, калі яму не было і года.

— Я мяркую, што мой бацька быў вайскоўцам, — гаворыць Леанід Ліхач. — Мяне маленькага знайшлі ў лесе пасля бамбёжкі вайсковай калоны, якая адступала на ўсход. Жыровіцкі селянін Аркадзь Ліхач са сваёй жонкай прынялі мяне, выратавалі ад смерці і сталі маімі прыёмнымі бацькамі. Па-сапраўднаму заняцца разьбой па дрэву мне дапамог выпадак, — прадоўжыў нашу размову майстар. — У 1980 годзе я трапіў на фабрыку мастацкіх вырабаў, дзе ўбачыў, як рабочыя цэха сувеніраў вырэзвалі з дрэва фігуры звяроў. Мне вельмі захацелася самому паспрабаваць зрабіць нешта падобнае. Набыў сціплы набор разцоў, знайшоў кавалак ліпы і пачаў работу. Цэлы тыдзень варажыў, пакуль атрымалася скульптура зубра. Пакінуў фабрыку Леанід. Але жаданне тварыць прыгожае ў яго не знікла: робіць скульптуры знаёмым на заказ.

Падчас нашай гутаркі ў майстэрню прыбегла ўнучка майстра Віка, якая шчыра прытулілася да дзядулі.

— Ні дзеці, ні ўнукі не цікавяцца маім заняткам, — паведаміў майстар. — Забяжыць, часам, да мяне малодшы ўнучак Валерык, дык ягонага захаплення разьбой хапае да таго часу, пакуль не парэжа палец, — пажартаваў Леанід Аркадзьевіч і пяшчотна прытуліў да сябе Віку.

**Валянцін ЧУРЫЛА**
**Фота Мікалая СУПРУНА**



# ЯК СЛОНІМЕЦ НА "БАСОВІШЧА" ЕЗДЗІЎ

**17–18 ліпеня ў невялікім мястэчку Грудэк (Гарадок) на Беласточчыне, каля мяжы з Беларуссю, прайшоў традыцыйны фестываль беларускай рок-музыкі "Басовішча". На фестывалі быў і наш зямляк Генрых Засімовіч, які расказаў пра тое, што там убачыў.**

– Даўно збіраўся паехаць на "Басовішча". У гэтым годзе, нарэшце, выбраўся. З Гродна ехаў у Беласток на аўтобусе разам з "чаўнакамі", якія спяшаліся на мясцовы рынак. З Беластоку даехаў да Гарадка. А куды там далей ісці – не ведаў...

Запытаўся ў адной жанчыны. "Ідзі той дарогай, а там ужо знойдзеш", – кажа яна па-беларуску. Дарэчы, там многія па-нашаму гавораць і амаль усе ведаюць, дзе праходзіць фэст. Калі я прыйшоў на месца, там у лесе ўжо стаяла сцэна і некалькі палатак. Гляджу: над адной палаткай бел-чырвона-белы сцяг. Аказалася, што гэта хлопцы з Беларускага згуртавання моладзі, якое дзейнічае ў Польшчы. Сказалі яны мне, што хутка прыбудзе асноўная частка ўдзельнікаў. І сапраўды, хутка вакол маёй палаткі, як тыя грыбы, "павырасталі" дзесяткі палатак. Да вечара сабралася каля двух тысяч чалавек. Вельмі многа моладзі прыйшло з самога Гарадка і навакольных вёсак. Прыехалі беларусы нават з Аўстраліі...

У першы дзень выступалі "цяжкія" рок-гурты. Запомніліся "Бактэрыя" і "Верытас" з Польшчы. Арганізацыя была выдатная. Сярод спонсараў "Басовішча" быў адзін з самых папулярных у Польшчы піўных бровараў "Zywiec". Так што з півам праблемаў не было... Была ахова з прыватнай фірмы. Падрыхтаваныя хлопцы кантралявалі сітуацыю, але ў "варанкі" нікога не кідалі, толькі адбіралі сцізорыкі, на ўсялякі выпадак...

На другі дзень выступалі "NRM", "Палац", "Крама" з Мінска, "Кальян" з Гродна. Асабліва публіцы спадабаўся хіт "NRM" "Мы — партызаны, лясныя браты". Пад яго танчылі ўсе, здаецца ніхто не быў абыякавым...

Да Гродна ехаў у аўтобусе разам з мінскімі рок-гуртамі. На мяжы здарыўся інцыдэнт. Хлопец з "Крамы" па мянушцы "Клаўс" згубіў пашпарт і нас нашыя памежнікі не хацелі прапускаць на Радзіму. Але пазней Ігар Варашкевіч (лідэр "Крамы") знайшоў пашпарт пад крэслам. У выніку ўсё закончылася добра.

**Запісаў Сяргей ЁРШ**

А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК

# Знаходка

Іван Масляк на прыступках банка знайшоў чатырыста тысяч рублёў: чатыры шчыльна злежаныя сіненькія соценныя купюры.

— Тыпічная мужчынская "заначка", — падумаў Іван.




Падняўшы грошы, Масляк зайшоў у залу банка. У чарзе стаялі дзесяткі з два мужчын. Магчыма, што грошы згубіў нехта з іх. Падпарадкоўваючыся ўласнаму сумленню, Іван Масляк агледзеў усю чаргу і, як мага грамчэй, сказаў:




— Таварышы, хто з вас згубіў грошы!

Пажылыя людзі, якія стаялі ў патыліцу адзін другому, павярнуліся на голас, але не сталі імкліва правяраць свае кішэні і кашалькі. І толькі маладыя жанчыны на нейкі момант зазірнулі ў свае доўгія кашалькі. Іван паўтарыў яшчэ раз, крыкнуў:

— Таварышы! Хто з вас згубіў грошы!

Іван атрымліваў асалоду ад ролі, якую выконваў — роль настойлівага ў сваёй сумленнасці чалавека, якім ён сябе лічыў. У дадатак ён лавіў на сабе дасціпныя позіркі маладых жанчын з чаргі, у вачах якіх можна было прачытаць насмешку: маўляў, дурны ты чалавек — адмаўляешся ад грошай...

Гэта яшчэ больш натхніла Масляка, і ён гучна звярнуўся да двух мужчын, якія зайшлі ў банк:

— Таварышы! Можа гэта вы згубілі грошы?

І ў адказ пачуў ад аднаго з іх, больш сталага:

— Які я табе таварыш?

— Грамадзянін! — звярнуўся Масляк да другога, больш панурага і няголенага мужчыны, але той адразу перапыніў яго:

— Грамадзянін! Грамадзянін! Не чапляйцеся да людзей!

Як ашпараны Масляк выскачыў з залы банка. Ён вырашыў, што чалавека, які згубіў грошы, тут ужо даўно няма. Тым не менш Масляк вырашыў крыху пачакаць, можа хто-небудзь прыйдзе ў банк і запытае пра грошы. З такой думкай ён зноў зайшоў у залу банка і зноў пачаў звяртацца да тых, хто нервова і ўстрывожана забягаў сюды.

— Таварыш, не вы згубілі?..

Самая маладая супрацоўніца ашчаднага банка, што прымала камунальныя плацяжы, не вытрымала і накінулася на Масляка:




— Малады чалавек! — абурана сказала яна, хоць Іван быў старэйшы за яе ўдвая. — Вы перашкаджаеце працаваць. Адцягваеце ўвагу кліентаў, і з-за гэтага яны распісваюцца не там, дзе трэба. Калі вам так хочацца моцна гаварыць, рабіце гэта на вуліцы.

Ён паслухаўся і хвілін дваццаць адстаяў са сваім пытаннем ля ўваходу ў ашчадны банк, але дарэмна. Тады ён вырваў з нататніка некалькі лісткоў і напісаў аб'яву пра знаходку, паперкі прымацаваў да дзвярэй банка. Дома яго чакала навіна. Жонка Івану сказала, што бесперапынна звоніць тэлефон — усе пытаюцца пра нейкія грошы. Яе шчэбет спыніў чарговы званок:

— Я згубіў грошы, — прамовіў на другім канцы провада мужчына.

— Колькі?

— Паўтара мільёна.

— Значыць, я знайшоў не вашы грошы, — адказаў Масляк.

Потым патэлефанавала жанчына, яна таксама згубіла грошы.

— Колькі?

— Два з паловай мільёна.

Уладальнік знаходкі пакуль што яшчэ не злаваўся і паўтарыў адказ весела:

— Значыць, я знайшоў не вашы грошы.

Пазней зноў званілі розныя жанчыны і мужчыны.

— Божухна, — здзівіўся Іван. — Колькі людзей сёння згубілі грошы: мільён, два, два з паловай, восемсот тысяч...

Адзін мужчынскі голас паведаміў, што згубіў чатырыста тысяч, што ўзрадавала Масляка:

— Якімі купюрамі? — запытаў ён.

— Па дваццаць тысяч.




— Значыць, я знайшоў не вашы грошы.

Пасля чарговага званка і сам Масляк, і ўсе члены сям'і станавіліся ўсё больш злоснымі. Жонка зачынілася ў іншым пакоі і злосна сказала Івану, каб ён самастойна рыхтаваў вячэру, бо ў яе разбалелася галава ад званкоў.

Пад вечар Масляк звярнуў увагу, што зноў пазваніла жанчына са знаёмым голасам. Тады ён паставіў пытанне рубам:

— Але ж вы днём казалі, што згубілі паўтара мільёна.

— А колькі вы знайшлі? — пачуў ён у адказ.

Апоўначы высветлілася, што звоняць, мяняючы голас, трое: двое мужчын і жанчына. Яны спачатку перайшлі "на ты", а затым сталі пагражаць:

— Калі ты не аддасі мае грошы, табе будзе хана!

Хутка яны паведамілі яшчэ адну навіну, што ім вядомы яго дом, дзе ляжаць грошы. Масляк пераканаўся, што яны даведаліся нумар дома, дзе ён жыве.

— Мы цябе падпалім, калі ты зараз жа не вынесеш грошы, — пагражалі вымагальнікі.

Раніцай на Масляка накінулася жонка:

— Каб ты згарэў разам са сваёй знаходкай. Нясі грошы ў міліцыю.

— Як у жанчын усё проста, — падумаў Масляк і падаўся ў аддзел.

Дзяжурны міліцыянер прыняў чатыры соценныя купюры абыякава, аднак запатрабаваў ад Масляка напісаць заяву аб знаходцы. З паўгадзіны ён неаднаразова перапісваў заяву, а дзяжурнаму ўсё не падабаўся яе змест. Раптам у дзяжурку зайшоў высокі хударлявы мужчына ў цывільным адзенні і, даведаўшыся ў чым справа, параіў дзяжурнаму старанна праверыць дакументы Масляка, бо пазаўчора, каля гарадскога аддзела ЗАГСа нехта пачысціў кішэні аднаго разявы, што назіраў за вясельнымі картэжамі. Яшчэ хвілін дзесяць Масляк даваў тлумачэнні мужчыне ў цывільным, а той усё нешта запісваў, званіў, удакладняў...




Калі Масляк, поўны злосці, выйшаў з міліцыі, то цвёрда вырашыў, што ніколі ў жыцці больш не падыме ніякіх грошай.

Аднак здарылася непрадбачанае: толькі ён перайшоў вуліцу і ступіў на тратуар ля бара "Аазіс", як прыкмеціў, што побач з дрэвам ляжыць жаночы кашалёк. Масляк куляй сарваўся з месца і, ні аб чым не думаючы, паімчаў у бок Брэсцкай вуліцы.

Прыбег ён дадому і не паспеў аддыхацца, як пачуў тэлефонны званок:

— Я згубіў грошы...

Масляк, не даслухаўшы пытання, так бразнуў тэлефонную трубку, што яна разляцелася ўшчэнт.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

 



НАВІНЫ

## Артыстка сезона

**Мастацкі савет Слонімскага беларускага драматычнага тэатра падвёў вынікі тэатральнага сезона 1997-98 гадоў.**

Лепшай артысткай сезона стала Ірына Яцук. Яна ўзнагароджана каштоўным падарункам.

Нагадаем, што Ірына Яцук выканала ролі чорта ў спектаклі "Камедыя", кухаркі Матроны ў "Жаніцьбе Бальзамінава", Мар'і ў "Леках ад кахання", Цімошынай у спектаклі "Мы ідзем глядзець "Чапаева", а таксама ў многіх пастаноўках для дзяцей.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Сталі лаўрэатамі

**Хор дзіцячай музычнай школы "Камерата" пад кіраўніцтвам Наталлі Кукліцкай заняў трэцяе месца сярод юнацкіх калектываў на VI міжнародным фестывалі духоўнай музыкі "Магутны божа", які нядаўна прайшоў у Магілёве. Хор стаў лаўрэатам фестывалю і атрымаў прыз — крыштальную вазу.**



Канцэртная праграма нашых артыстаў складалася з шасці нумароў, сярод якіх былі творы І.Баха, А.Вівальдзі і Ф. Аткінсона.

Па словах Наталлі Кукліцкай, членам міжнароднага журы і гледачам найбольш спадабаліся песні "Жыровіцкая Маці Божая" і "Ёсць дарога, якая вядзе нас".

Журы адзначыла таксама высокае выканаўчае майстэрства камернага ансамбля "Арсеон" пад кіраўніцтвам Аляксандра Масляніцына, які акампаніраваў хору.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ФОТААРХІЎ *1930-я гады*



Так выглядала слонімская прыстань на канале Агінскага ў даваенны час. Тут не толькі былі «прыпісаны» два дызельныя кацеры, але кожны жадаючы мог узяць на пракат байдарку. На прыстані працавала кафэ...

Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца танцпляцоўка.

**Фота з архіва Вячаслава СЦЯПУРЫ**

БЕЛАРУСЫ САМІ ПРА СЯБЕ

## Тую

Адзін з аддзелаў міліцыі вырашыў актыўна ўключыцца ў месячнік па азеляненню горада. Купілі саджанцы дрэў туі, каб пасадзіць іх каля гарвыканкама. Сам начальнік міліцыі прыйшоў у гарвыканкам, каб паведаміць аб гэтым старшыні. А старшыня якраз праводзіў пасяджэнне.

— Сёння мы пасадзім тую, — з парога заявіў начальнік міліцыі, глянуўшы на галоўнага бухгалтара.

Бухгалтар, ускочыўшы, паказала на сваю намесніцу.

— Пасадзіце тую! Я толькі брала. А яна брала і старшыні давала.

## Адзін кампот

У сталоўцы кліент звяртаецца да чаргі:

— Дазвольце мне ўзяць адзін кампот.

— Няхай бярэ. Не стаяць жа чалавеку ў чарзе дзеля аднаго кампота, — паспачувалі людзі.

Дабраўшыся да касы, той заказвае суп, катлеты, піражок, кампот.

— Казаў, што адзін кампот будзе браць! — абурыліся ў чарзе.

— А хіба ж я бяру два кампоты! — кажа кліент.

**Запісаў Аляксей ЯКІМОВІЧ**



ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

## Суд над бандытамі

27 сакавіка 1946 года ў Слоніме Ваенны Трыбунал войск НКВД Баранавіцкай вобласці пад старшынствам гв.старшага лейтэнанта юстыцыі А.А.Захарчука разглядаў на адкрытым судовым паседжанні справу бандыцкай грабежніцкай групы.

На лаве падсудных — 4 абвінавачваемыя на чале з Мікалаем Скляром.

Восенню мінулага года бандыты Мікалай Скляр, Аляксей Леўшневіч і Сяргей Корпік сістэматычна займаліся ўзброеным абрабаваннем мірнага насельніцтва на шашы Слонім — Ружаны. У людзей яны забіралі грошы, прадукты харчавання, рабавалі таксама жыхароў на хутарах раёна.

У ноч з 16 на 17 снежня 1945 года гэтыя бандыты ўчынілі забойства агента Слонімскага упаўнаркамзага (упаўнаважанага па нарыхтоўках са Слоніма — "ГС") Георгія Фенько, яго дачкі-сакратара камсамольскай арганізацыі Мелькановіцкай пачатковай школы Веры Фенько і жонкі Аксені Фенько.

Ваенны Трыбунал прызнаў віноўнасць трох падсудных даказанай і прыгаварыў: М.Скляра да вышэйшай меры пакарання — расстрэла, А.Леўшневіча і С.Корпіка — да 10 гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўных лагерах кожнага, з канфіскацыяй асабістай маёмасці.

Падсудны Г.Барадачоў, віноўнасць якога на судзе не падцвердзілася, з-пад варты вызвалены.

Прыгавор Трыбунала з'яўляецца канчатковым і касацыйнаму абскарджванню не падлягае.

Рашэнне суда прысутная ў зале публіка сустрэла аднадушным адабрэннем.

**"Вольная праца" (Слонім), №26, 29 сакавіка 1946г.**



УСПАМІНЫ

# РУЖОВАЯ ПАПЕРКА

Гэтай паперцы каля паў сотні гадоў. Але яна кідае цень на ўсю маю біяграфію часоў савецкага перыяду.

Яшчэ ў партызанах незадоўга перад вызваленнем Слонімшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў некаторыя нашы хлопцы з каманднага складу пачалі падаваць заявы аб уступленні ў партыю. Аднойчы і я, як кіраўнік Слонімскай міжраённай антыфашысцкай арганізацыі, падыйшоў да сакратара падпольнага РК КП(б)Б Міхаіла Анішчыка і асцярожна запытаў:

— Можа і мне падаць заяву?

— Не спяшайся, — адказаў ён, — вернемся ў Слонім, там і вырашым.

Сказаць папраўдзе, я і не спяшаўся. Вярнуўшыся ў горад, пачаў аднаўляць знішчаную немцамі друкарню. Лазячы па пажарышчах з друкаром Мікалаем Рудаком, падбіралі розныя калёсікі, рычажкі, каб як-небудзь запусціць плоскую друкарскую машыну, бо партыйную друкарскую машынку, на якой рабілі ў лесе газету, здалі ў краязнаўчы музей. Нарэшце, станок запрацаваў.

Раённая газета цяперашняга фармату, толькі на дзвюх старонках, пачала выходзіць раз у тыдзень, бо з творчых работнікаў было ўсяго два чалавекі. Здаралася, што падчас адсутнасці рэдактара, я — беспартыйны адказны сакратар — падпісваў партыйны орган друку.

Але кожны раз, як загляне ў рэдакцыю які-небудзь начальнік з Баранавіч або Мінска, задае пытанні:

— Вы камсамолец?

— Не.

— Значыць, член партыі?

— Не.

— Как же так? Вы же подписываете партийное издание. Надо вступать.

Нарэшце, параіўшыся з сябрамі з другіх рэдакцый, у прыватнасці з беларускім пісьменнікам Раманам Сабаленкам, які працаваў у баранавіцкай абласной газеце, я сабраў рэкамендацыі і падаў заяву ў райкам партыі. І што вы думаеце? Не прынялі і не адмовілі. Як кажуць, справу "павесілі ў паветры". Я ў райкам, а там: "Не спешите".

А тым часам справа набліжалася да згаданай паперкі. Неяк рэдактар Мікалай Бурсевіч напісаў артыкул, які раённы цэнзар прапусціў, а вось абласны ўбачыў "крамолу". Рэдактара выклікалі ў Баранавічы на бюро абкама. Добра "прапантавалі" і хацелі накіраваць у Казлоўшчыну рэдактарам райгазеты (тады Казлоўшчына была раённым цэнтрам). Але слонімскі рэдактар упрасіўся, каб пакінулі яго на месцы, хоць сакратаром.

Я тады знаходзіўся ў водпуску, але нікуды не выязджаў і сяды-тады заходзіў у рэдакцыю. Зайшоў і пасля абкамаўскага бюро, каб даведацца па якому пытанню выклікалі рэдактара. Ён сядзеў, нібы аршын праглынуўшы, а потым пагладзіў лысіну і прамовіў з расстаноўкай слоў:

— Іван, ты беспартыйны, пашукай сабе працу дзе-нібудзь на прадпрыемстве.

Гэта мяне насцярожыла:

— Не разумею, што здарылася. Працую добрасумленна, не злодзей, не п'яніца, не прагульшчык. Падрыхтаваў памяшканне для рэдакцыі. Прыклаў шмат намаганняў, каб хутчэй аднавіць друкарню. Нічога не разумею.

— Так будзе лепш, — усяго і пачуў я ў адказ.

З рэдакцыі тут жа накіраваўся ў райкам партыі, каб высветліць прычыну рэдактаравай нечаканай прапановы. Новы сакратар райкама Шаўчэнка развёў рукамі, сказаў: "Не ведаю".

У яго кабінеце тады знаходзіўся яшчэ адзін чалавек, якога раней я ніколі не бачыў.

— Я знаю, — заявіў незнаёмы. — Не внушаете политического доверия, вот вас и увольняют.

Потым даведаўся, што гэта быў сакратар абкама партыі таварыш Ажгірэй.

Пэўна, не варта казаць, што я адчуваў тады.

Праз некаторы час Раман Сабаленка, які прысутнічаў на бюро абкама, расказаў, як Бурсевіч упрасіўся на маё месца.

І я пачаў шукаць "работу на прадпрыемствах". Усюды патрабавалі працоўную кніжку і характарыстыку на ружовай паперцы наступнага зместу:

"Миско Иван Дорофеевич работал ответственным секретарем Слонимской райгазеты "Вольная праца" с 10 июля 1944 года по 1 сентября 1947 года. Обязанности выполнял добросовестно и проявил себя дисциплинированным и исполнительным работником. С работой секретаря районной газеты вполне справлялся. Правда, помехой в работе была его беспартийность".

Я моцна прасіў выкінуць з характарыстыкі апошні, непатрэбны сказ. Але чалавек, які даваў характарыстыку, упёрся ў сваё, як бык у новыя вароты.

І куды не кідаўся з гэтай ружовай паперкай, усюды чуў стандартны адказ: "Нет места". А, між тым, плылі з усходу да нас розных калібраў начальнікі і неначальнікі, і ім у Слоніме знаходзілася "место".

І ўсё ж адзін раз гэтая ружовая паперка спатрэбілася. Ідучы "на заслужаны адпачынак" і маючы біяграфічныя дадзеныя кіраўніка Слонімскай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі і намесніка камандзіра партызанскага атрада, я падаў заяву на атрыманне персанальнай пенсіі. Загадчык райсабеса Дубінец, пагартаўшы мае паперы, запытаў:

— Ты партыйны?

— Не.

— А чым дакажаш, што цябе не выкінулі з партыі. Гэта адно з асноўных пытанняў пры разглядзе заявы на персанальную пенсію.

— Дакажу.

І прынёс ружовую паперку ў аддзел сацыяльнага забеспячэння.

**Анатоль ІВЕРС**

КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

# ПАЎСЯДЗЁННАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ: 1945-1965

**Архіў Найноўшай Гісторыі (пры Беларускім Гуманітарным Фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны абвяшчае конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965".**

Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага для нас часу — мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта... Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.

У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў ці нават фільм, інтэрв'ю і г.д. Галоўнае, праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых формаў да працы павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследвання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніцаў могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г.д. Да працы павінна быць абавязкова далучана метрычка (інфармацыя пра ўдзельніка конкурсу).

Працу трэба даслаць у адным асобніку да 15 лістапада (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: 220123, Мінск, а/с 71.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны 15 снежня 1998 года. Пераможцаў конкурсу чакаюць прызы.

Усю патрэбную інфармацыю і парады можна атрымаць ад рэгіянальнага каардынатара конкурсу Сяргея Ярша (тэл. 2-14-39), альбо ў сакратара конкурсу сп. Ірыны Коваль па тэл. (0172) 77-46-25 з 7.00 да 8.00 і з 22.00 да 23.00 па панядзелках і чацвяргах. Умовы конкурса ўжо друкаваліся ў газеце "Наша Ніва" (№ 10 за 1 чэрвеня 1998).

Жадаем поспехаў!

СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

†

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШОЎ НАЗАЎЖДЫ:**

**Ламейка** Мікалай Паўлавіч 1940 г.н.

 

ПАДАРОЖЖА

# У ГОРАДЗЕ НА ОДРЫ

Сяргей ЧЫГРЫН "ГС"
Слонім — Вроцлаў — Слонім

## Знаёмства з Вроцлавам

У Польшчы другім па прыгажосці горадам пасля Кракава лічыцца Вроцлаў. У гэтым я мусіў асабіста пераканацца падчас тыднёвай журналісцкай стажыроўкі ў штодзённай газеце Вроцлава "Slowo Polskie". Я і яшчэ два журналісты з Беларусі пазнаёміліся не толькі з "кухняй" газеты, але і з горадам на славутай рацэ Одра.

Вроцлаў — горад архітэктурных помнікаў, горад літаратуры і мастацтва. Тут праходзяць фестывалі польскай сучаснай музыкі, міжнародныя фестывалі араторый і кантатаў "Wratislavia Cantans", міжнародныя конкурсы малюнкаў, конкурс "Джаз на Одры" і іншыя. У Вроцлаве працуе сусветна вядомы тэатр пантамімы, якім кіруе Х.Тамашэўскі. Тут жыве папулярны паэт Польшчы Тадэвуш Ружэвіч. Акрамя тэатра пантамімы, існуюць яшчэ два тэатры.

Вроцлаў — студэнцкі горад, тут дзейнічаюць 11 вышэйшых навучальных установ, аддзяленне Польскай акадэміі навук, тут выдаецца шмат газет і часопісаў, якія канкурыруюць паміж сабой.

Самая старажытная частка горада — гэта Тумскі востраў з гатычным саборам Іаана Хрысціцеля і з двух'ярусным касцёлам Святога Крыжа. У Вроцлаве налічваецца больш чым 100 мастоў, ёсць гатычная ратуша — найцудоўнейшы помнік гэтага тыпу ў Еўропе. А таксама манументальныя касцёлы Святой Эльжбеты і Святой Марыі Магдалены. Ды й усёй архітэктурнай прыгажосці апісаць проста немагчыма.

Здзіўляе і радуе тое, што ўсе цэнтральныя плошчы і вуліцы Вроцлава брукаваныя. Амаль кожны жыхар горада мае сваю легкавушку ці нават дзве-тры. Па горадзе ходзяць трамваі і аўтобусы, але яны амаль пустыя. У шматлікіх крамах ёсць усё. На кожнай вуліцы Вроцлава працуе кніжны магазін. Праўда, кнігі вельмі дорага каштуюць, але вроцлаўцы іх купляюць.

Як і ў кожным вялікім горадзе, у Вроцлаве таксама існуе шмат праблем. Горад амаль акупіраваны румынамі і цыганамі, якія жабруюць на кожнай вуліцы і ля кожнай крамы. У пераходах спяваюць песні і граюць расійскія музыканты і спевакі, ці проста ляжаць на голым бруку. Шмат у горадзе наркаманаў, асабліва сярод моладзі ва ўзросце ад 16 да 25 гадоў. Гэта найвялікшая праблема Вроцлава. Што датычыць пітной вады, дык яе з кранаў ніхто не п'е. Ёсць спецыяльныя фірмы, якія вельмі танна, у любы час сутак, у спецыяльных 40-літровых бачках з кранікам, прывозяць ваду ў дамы і кватэры. Гэтая вада вельмі чыстая і прафільтраваная.



*Ля рэдакцыі газеты «Slowo Polskie»*

## Рацлавіцкая панарама

За адзін тыдзень усе музеі ў Вроцлаве наведаць проста немагчыма. Гэта археалагічны, архіепіскапскі, архітэктурны, гістарычны, народавы, пошты і камунікацый і іншыя. Але адзін з музеяў — Рацлавіцкую панараму — абмінуць нельга. Жывапісная праца над Панарамай працягвалася дзевяць месяцаў і карціна была завершана 28 траўня 1894 года. Аўтарамі яе з'яўляюцца Ян Стыка і Войцех Коссак. На ёй адлюстраваны наш зямляк Тадэвуш Касцюшка. А таксама шырока паказана паўстанне 1794 года — трагічная і слаўная старонка польскай і беларускай гісторыі. Полымем касцюшкаўскага паўстання былі ахоплены не толькі этнічныя польскія землі, але і значная тэрыторыя Беларусі, сучаснай Летувы і частка Латвіі. Усе разам паўстанцы тады выступілі супраць Расійскай імперыі... Нагадаю — радзіма Касцюшкі — вёска Мерачоўшчына былога Слонімскага павета.

## Сустрэча з землякамі

Газета "Slowo Polskie ", дзе праходзіла наша стажыроўка, выходзіць шэсць разоў на тыдзень на 18 старонках з каляровымі дадаткамі. Гэта вельмі сур'ёзнае выданне. Рэдакцыя мае свой двухпавярховы будынак, які поўнасцю абсталяваны камп'ютэрнай тэхнікай, мае ўласную друкарню, а таксама карпункты ў іншых гарадах Польшчы. Адзін з іх — горад Яленю Гуру (у нас чамусьці блытаюць з Зялёнай Гурай), нам удалося наведаць. Горад гэты невялікі, знаходзіцца амаль на мяжы з Чэхіяй. Пасля знаёмства з журналістамі, высветлілася, што карэспандэнт газеты "Slowo Polskie " Марыя Сухецка родам са Слоніма. На Лідчыне ў адным з касцёлаў працуе яе родны брат. Вельмі ўзрадавалася пані Сухецка нашаму візіту. Частавала нас тортам, вадзіла па мастацкіх салонах, музеях, знаёміла з вядомымі людзьмі свайго горада.

З Яленяй Гуры мы паехалі ў курортны гарадок Шклярска Порэба. Вакол яго горы, вадаспады, шматлікія санаторыі. Людзі адпачывалі і весяліліся. Вельмі прыгожае і чыстае месца. Запомніўся нам вадаспад Каменьчык, які бярэ пачатак у Чэхіі.

Яшчэ ў Слоніме гісторык Ігар Падгарадзецкі папрасіў перадаць кнігу для былога слонімца Ежы Лятаўца. За адзін дзень да ад'езду я пазваніў яму, а праз некалькі гадзін мы сустрэліся. Высокі і інтэлігентны мужчына шчасліва ўсміхнуўся. Я перадаў яму кнігу, слонімскія сувеніры, некалькі нумароў нашай газеты. Ён чуць не заплакаў. Я адчуў, што яму захацелася ў родны Слонім. Мы доўга гутарылі. "Мне было дзесяць гадоў, я стаяў ля каплічкі Святога Дамініка ў Слоніме і бачыў, як па вуліцы з усходу ехалі на конях бальшавікі, — стаў успамінаць Ежы Летавец. — Шмат часу прайшло з той пары, але Слонім не забываецца, ён мне часта сніцца".

Са слоў земляка я даведаўся, што ў Вроцлаве існуе слонімская суполка. Землякі часта сустракаюцца, успамінаюць горад над Шчарай.

Я развітаўся з Ежы Летаўцом з надзеяй на новае спатканне ў Слоніме.

**P.S.** Тыдзень у 700-тысячным былым нямецкім Брэславе прайшоў імгненна. Успаміны пра яго, адрасы польскіх сяброў-журналістаў, фотаздымкі, паштоўкі, тэлефонныя нумары — усё будзе яшчэ доўга нагадваць пра цудоўны і сардэчны горад на Одры.


*Вроцлаўскі універсітэт*


*Тумскі востраў*

ПРЭМ'ЕРА

# КРЫШТАЛЬНЫ ЧАРАВІЧАК ДЛЯ ПАПЯЛУШКІ

**У Слонімскім беларускім драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля для дзяцей "Папялушка".**

Гэтай пастаноўкай завяршыўся восьмы тэатральны сезон. З ёй юныя гледачы Слоніма пазнаёмяцца восенню гэтага года. Яны сустрэнуцца з казачнай, пяшчотнай гераіняй, якая вядома дзецям усяго свету — Папялушкай (Золушкай).

Упершыню з гэтым імем чытачы сустрэліся аж у 1697 годзе, калі славуты пісьменнік-казачнік Шарль Пяро ўключыў "Папялушку" у свой зборнік "Казкі маёй матулі Гусыні, ці Гісторыі і казкі былых часоў з павучэннямі". Гэтыя казкі мелі грандыёзны поспех. І вось ужо тры стагоддзі яны не губляюць сваёй папулярнасці. А славутая Папялушка стала народнай прыгажуняй, шчырай, добрай і сумленнай дзяўчынкай. Да гераіні Шарля Пяро звярталіся многія пісьменнікі, каб яшчэ глыбей праз вобраз Папялушкі паказаць чалавечнасць і дабрыню.



Упершыню слонімцы ўбачылі "Папялушку" дзесяць гадоў назад, калі ў горадзе яшчэ існаваў эксперыментальны тэатр-студыя. Гэта быў самы касавы і масавы спектакль за ўсю гісторыю тэатральнага пасляваеннага мастацтва на Слонімшчыне. Пастаноўку спектакля тады ажыццявіў рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. Ролю Папялушкі выконвала Ірына Вятошкіна, мачахі — Людміла Клімовіч, Гартэнзіі і Жаботы — Марыя Гурская і Ірына Бубен, феі Мелюзіны — Лілія Літвіненка. Яны даўно ўжо не працуюць у тэатры, але па-ранейшаму любяць яго і заўсёды радуюцца новым прэм'ерам.

Цяпер тэатр у Слоніме прафесійны, і акцёры — майстры сваёй справы. Але, калі я ішоў на прэм'еру, трохі хваляваўся. Хваляваўся за ўвесь спектакль і акцёраў, а больш за ўсё за Папялушку. Аднак хваляванні мае былі дарэмныя. Артыстка Наталля Шугай па-майстэрску выканала галоўную ролю. Яе Папялушка вельмі падобная на Папялушку Шарля Пяро, хаця спектакль пастаўлены па п'есе Таццяны Габэ.

Камізм казкі заключаўся ў раскрыцці вобразаў мачахі (артыстка Ніна Жукоўская) і "шалёных кошак" — старэйшай дачкі Гартэнзіі (артыстка Ірына Яцук) і малодшай дачкі Жаботы (артыстка Вікторыя Міхальчык).

Вельмі цікавай падалася ў спектаклі работа Ніны Жукоўскай. Сваімі сцэнічнымі рухамі і адметнай мовай артыстка здолела паказаць вобраз хітрай і спрытнай на язык і ўчынкі мачахі. Кожны рух артысткі, кожнае слова характарызуюць мачаху з адмоўнага боку. Такой і сапраўды ўяўляецца яна разам са сваімі дочкамі Гартэнзіяй і Жаботай. На вобразах гэтай "тройкі" высмейваецца зло, ашуканства, махлярства і зайздрасць. Артысткі справіліся са сваёй задачай.

Калі ўпершыню на сцэне з'явілася фея Мелюзіна (артыстка Таццяна Натарава), зала прыціхла. Дзякуючы добрай феі, жыццё Папялушкі пойдзе па-іншаму. "Я баюся, каб яна (фея) толькі не падумала, што я такая, як вы", — кажа Папялушка сваім "сёстрам". Але чараўніца-фея так не падумала, а за дабро і шчырасць Папялушкі адплаціла шчасцем.

Прыёмамі клаунады карыстаецца артыст Уладзімір Навумік пры стварэнні вобраза прыдворнага блазна. Цікава выканалі ролі прынца Сяргей Лішык, караля — Васіль Сявец, прыдворнага — Віктар Шчарбакоў.

Да ўсяго сказанага хачацца дадаць, што пачынаў ставіць спектакль рэжысёр Мікалай Варвашэвіч (цяпер ён у тэатры не працуе), а завяршыў — Віктар Небальсін. Таму было шмат праблем. Але спектакль атрымаўся і верыцца, што ён будзе доўга жыць, бо нясе людзям дабро, справядлівасць і чалавечую цеплыню.

Сяргей ЧЫГРЫН

На здымках: сцэны са спектакля "Папялушка».
Фота Мікалая СУПРУНА



